Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

38 (546) 23 верасня 2010 года

Кошт **свабодны**

## Äçåíü çà äí¸ì

**Як паказаў апошні перапіс насельніцтва, у кастрычніку летась у нашай краіне пражывала амаль на 650 тысяч жанчын болей, чым мужчын, становішча ў вёсках яшчэ больш трывожнае, у глыбінцы – сапраўдны дэфіцыт “нявестаў”. Насельніцтва Беларусі за 10 гадоў зменшылася больш чым на паўмільёна чалавек. Эканамічны суд СНД і з трэцяй спробы адхіліў хадатайніцтва беларускага боку па спрэчцы з Расіяй аб спагнанні мытных пошлін на нафтапрадукты. На фоне павышэння зарплат асобным катэгорыям бюджэтнікаў на 7-10 % выраслі паслугі электрасувязі і паштовыя тарыфы.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Расія.** Канцэрн “Газпрам” аб'явіў аб павышэнні ў 2011 годзе кошту на газ для Беларусі да еўрапейскага ўзроўню. У канцы года паміж краінамі можа зноў адбыцца вострый канфлікт.

**Германія.** Больш за 1200 кампаній свету ўдзельнічалі ў Берліне ў 50-й выставе бытавой электронікі IFA-2010. Навінкамі сталі трохмерныя тэлевізары і планшэтныя камп'ютары.

**Венесуэла.** У выніку галадоўкі пратэсту супраць зямельнай рэформы У. Чавеса памёр 49-гадовы фермер, у яго ўлады забралі без выплаты 24 гектары зямлі і раздалі беднякам.

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама паведаміў аб намеры скарачэння падаткаў для прадпрыемстваў дзеля пашырэння ўзроўню занятасці і для падтрымкі малога бізнесу.

**Англія.** Каб знізіць высокі ўзровень міграцыі, урад краіны рашыў ускладніць парадак выдачы студэнцкіх віз для моладзі з дзяржаў, якія не ўваходзяць у Еўрасаюз.

**Францыя.** Еўрапейскі суд па правах чалавека ў Страсбургу забараніў французскім уладам дэпартацыю беларускай сям'і з трыма дзецьмі з Магілёва па палітычных матывах.

**Германія.** Былы камандзір брыгады спецназа РБ, палкоўнік запасу У. Барадач папрасіў тут палітычнага прытулку пасля свайго ўдзелу ў фільмах НТБ “Крёстный батька”.

**Расія.** Ва Уладзівастоку пачалі ўзвядзенне музея Другой сусветнай вайны. Яе закончэнне 2 верасня 1945 года ўпершыню адзначалася ў краіне як новае ўсерасійскае свята.

**Польшча.** Да 2013 года з бюджэту ЕС на падтрымку сваіх самых бедных рэгіёнаў на ўсходніх землях краіна атрымае 67 млрд. EUR, гэта пацвердзілі Б. Камароўскаму ў Бруселі.

**Куба.** Прэстарэлы экслідар краіны Ф. Кастра нарэшце прызнаў, што “кубінская мадэль сацыялізму” і кіравання непрацаздольная і больш не падыходзіць нават для кубінцаў.

**Малдова.** Пасля правалу рэферэндума па пытанні выбрання прэзідэнта ў самай беднай краіне Еўропы на 21 лістапада прызначылі датэрміновыя парламенцкія выбары.

**ЗША.** На сусветным конкурсе моцных напояў лепшай гарэлкай свету сярод 249 фірм прызналі англійскую элітную гарэлку з бульбы Chase з графства Херэфордшыр.

**Эстонія.** Службовае расследаванне МЗС краіны не пацвердзіла дачыненне свайго былога дыпламата ў Мінску Хары Лахтэйна да сэкс-скандалу. За інцыдэнтам стаіць спецслужба.

**Англія.** Пасля свайго пераходу ў ФК “Бірмінгем” самы багаты беларускі спартсмен А. Глеб захаваў за сабой узровень ранейшай зарплаты – 80 тысяч EUR у тыдзень.

**Швецыя.** Шведскім вадалазам удалося падняць з затануўшага судна ў Балтыйскім моры найстарэйшае ў свеце шампанскае і піва ўзростам каля 200 гадоў, кошт яго зашкальвае.

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Так і не прызнаўся міністр фінансаў РБ А. Харкавец, якая цана на газ закладвалася пры фарміраванні дзяржбюджэту на 2011 год, які парламент прыняў у 1-м чытанні.

**Салігорск.** Пасля акцыяніравання статутны фонд аб'яднання “Беларуськалій” склаў амаль 6 трлн. рублёў, яно падрыхтавана да продажу, але ўрад РБ не будзе спяшацца з гэтым.

**Мінск.** Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка перагледзеў дату свайго нараджэння з 30 на 31 жніўня. Гэты дзень народзінаў стаў указваецца на афіцыйным сайце кіраўніка краіны.

**Бабруйск.** Паблізу горада канчаткова вырашана пабудаваць за 2-3 гады пяты па ліку ў РБ цукровы завод магутнасцю да 1,7 млн. тон буракоў. Сыравіна будзе і з Гомельшчыны.

**Гомель.** Суд прыгаварыў 5 гараджан ва ўзросце 22-25 гадоў, членаў арганізаванай бандгрупы, да пазбаўлення волі тэрмінамі ад 12 да 17 гадоў за шэраг злачынстваў.

**Дзяржынск.** На сваёй дачы ў вёсцы знайшлі мёртвым у пятлі 36-гадовага журналіста, заснавальніка сайта “Хартыя'97” А. Бябеніна. Родныя не вераць у яго самагубства.

**Баранавічы.** Крызіс перажывае баваўнянае аб'яднанне, з былых 10 засталіся 3,5 тысячы працаўнікоў, аб'ёмы вытворчасці ўпалі да 60 % леташніх, на складах тавару на 23 млрд.

**Мінск.** У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрылася найбуйнейшая выстава “Зямля пад белымі крыламі.” Выстаўляюцца больш за 150 лепшых аўтараў краіны.

**Гомель.** Адразу два чалавечыя шкілеты з рэшткамі вопраткі знайшлі пры бурэнні розных свідравін у вёсцы Бабовічы, затым - яшчэ адзін труп у лясным масіве Мазырскага раёна.

**Ліда.** Да “Дажынак-2010” у горадзе здалі больш за 220 аб'ектаў, сярод іх Лядовы палац, старажытны замак, новае кафэ “Белыя Росы”, 2 масты праз раку Лідзейку.

**Мінск.** Са скандалам пакінуў хакейнае “Дынама” 30-гадовы варатар зборнай РБ Віталь Коваль з-за меншай, чым летась, сумы кантракта – 400 тысяч $ за адзін сезон.

**Гродна.** Прафесар медуніверсітэта А. Астроўскі з жонкай і дзецьмі выйшаў на плошчу Леніна з плакатамі пратэсту, бо ў горадзе няма ніводнага беларускамоўнага класа ў школах.

**Мінск.** Вядомы эканаміст Л. Заіка спрагназаваў сёлета вельмі жорсткія перамовы аб цэнах на газ з “Газпрамам”. Кошт паліва для беларусаў можа дасягнуць 250 $ за тыс. кубаметраў.

**Гомель.** У буйнейшых магазінах горада пачаліся перабоі з продажам масла, бо з рынку сышлі яго вытворцы з іншых абласцей, якім больш выгадны збыт яго ў РФ .

**Бабруйск.** За 3,2 гады незаконнага ўтрымання ў турме суд вырашыў выплаціць з дзяржбюджэту 25 млн. рублёў жыхару горада А. Каваленку. Пракурор пайшоў у адстаўку .

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Кіраўнік вобласці А. Косінец панізіў у класе дзяржслужачых адразу 8 старшынь райвыканкамаў за нявывезеную з палёў салому пасля ўборкі збожжа.

**Наваполацк.** Для выхаду на сусветны ўзровень перапрацоўкі нафты (92 %) НПЗ “Нафтан” трэба на тэхпераўзбраенне яшчэ 4,1 трлн. рублёў, столькі сродкаў ён не мае.

**Віцебск.** Больш за 1,5 тысячы шматпавярховак з жылфонду вобласці, альбо кожная пятая, як адзначалася ў аблвыканкаме, патрабуюць капрамонту, а на гэта трэба 355 млрд. рублёў.

**Полацк.** Гараргенізацыя Фонду міру пачала збор сродкаў на стварэнне мемарыяла на месцы масавых растрэлаў вайной ва ўрочышчы Пяскі, дзе загінула да 150 тыс. людзей.

**Віцебск.** Як паказаў перапіс, жыхароў вобласці з 1999 года стала менш на 146 тысяч чалавек. На Віцебшчыне жыве 1,231 млн. грамадзян, гэта 5-ты паказчык у Беларусі.

**Дрэтунь.** Паблізу расійскай граніцы ў лясным масіве міліцыя знайшла 87 мінамётных мін, 3 гранаты і артылерыйскі ўзрывальнік часоў вайны, сапёры абясшкодзілі гэты арсенал.

**Глыбокае.** Каля апоўначы ля вёскі Квачы вадзіцель МАЗа з Ушацкага раёна пераехаў праз лячаўшага на дарозе 44-гадовага мужчыну, які памёр, кіроўцу потым знайшлі і затрымалі.

**Браслаў.** Больш за 3 млрд. рублёў патрацілі сёлета ў раёне на рамонт школ, устаноўку ў іх новай мэблі, сантэхнікі, вокан ПВХ. Найбольш памаладзела СШ № 1 райцэнтра.

**Чашнікі.** Падчас чарговага Дня горада ў райцэнтры адкрылі 2 новыя аб'екты – аўташколу ДТСААФ і новы кандытарскі цэх з аб'ёмам выпечкі да 30 тон прысмакаў у месяц.

**Глыбокае.** За зборнік вершаў “Цяпельца зары” мясцовы паэт Алесь Жыгуноў атрымаў дыплом пераможцы Рэспубліканскага літаратурнага конкурса “Лепшы твор 2009 года”.

**Шуміліна.** З-за ўцечкі газу з самастойна падключанага газавага балона на днём у вёсцы Лескавічы адбыўся выбух і пажар у доме, загінулі сын гаспадыні дома і суседка.

**Полацк.** Буйны штраф выплацілі бацькі 13-гадовага хулігана, якога затрымала транспартная міліцыя на станцыі Фарынава за разбіццё адной лінзы светлафора маневраў.

**Орша.** На дарозе ля вёскі Скаўры міліцыя затрымала “Камаз” з 10,6 тонамі чорнага металу без дакументаў груз і машыну ў 36-гадовага беспрацоўнага з гэтага раёна канфіскавалі.

**Расоны**. Вальшчык лесу мясцовага лясгаса Аляксандр Гарэлаў заняў 2-е месца ў Пінску на XVI чэмпіянаце Беларусі “Лесаруб-2010”, зборная каманда Віцебшчыны была 4-й.

**Чашнікі.** На працягу 4-х месяцаў жывуць без вады жыхары больш сотні дамоў прыгараднай вёскі Зарэчная Слабада, улады пакуль не могуць вырашыць праблему.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

## Лічба нумара

# 2327000

столькі чалавек у Рэспубліцы Беларусь, па дадзеных Белстата, размаўляюць дома на беларускай мове. Як паказаў апошні перапіс насельніцтва 2009 года, менавіта беларуская мова родная для 60 % насельніцтва краіны. Аднак існуе парадокс, што карыстаецца ёй, “непрэстыжнай і вясковай”, толькі 23 % жыхароў. Дзіўныя рэчы назіраюцца ў нас, незразумелыя тым жа літоўцам, палякам і нават украінцам, не кажучы ўжо пра тое, каб француз ці немец не гаварыў дома на сваёй роднай мове.

Зрэшты, там, на кантыненце, няма і такіх імклівых тэмпаў скарачэння насельніцтва ў быццам бы “стабільнай і квітнеючай” рэспубліцы, дзе тытульная нацыя здзіўляе свет, што ўсё меней і меней размаўляе па-беларуску. Але маем тое, што маем у выніку сумна вядомага рэферэндума і actыўнай палітыкі русіфікацыі. Праўда, цяпер на фоне пагаршэння двухбаковых адносін з Расіяй на вышэйшым узроўні афіцыйныя СМІ, як па камандзе, сталі сцвярджаць, наколькі расіяне незадаволены сваім жыццём і якое ў іх дрэннае кіраўніцтва.

А вось у нас відавочны рэгрэс, адкат назад, паколькі працэс беларусізацыі і адраджэння беларускай мовы спынены, большасць народу стала яшчэ болей гаварыць па-руску. Яшчэ 10 гадоў назад было лепей, беларускую мову лічылі роднай 73,7 % грамадзян, а ў штодзённым жыцці тады, у 1999 годзе, яе выкарыстоўвала 36,7 % насельніцтва. Трэба біць трывогу з нагоды такой сумнай тэндэнцыі рэзкага скарачэння беларускіх школ і класаў, а таксама СМІ і кніг на роднай мове. Беларуская мова жыве толькі дзякуючы старэючай і выміраючай вёсцы, а вось у адарваўшайся ад абласцей і глыбінкі па даходах нашай сталіцы беларускую мову назвалі роднай толькі 35 % мінчан.

Сапраўды, свядомым грамадзянам краіны і лепшым прадстаўнікам творчай інтэлігенцыі балюча і трывожна ад таго, якая бяда звалілася на нас. Яны ведаюць, што пры захаванні існуючых цяпер тэндэнцый ужо праз 20-30 наступных гадоў беларуская мова можа быць выведзена ўвогуле з ужывання, пачуццё самасвядомасці і нацыянальнай годнасці беларусаў можа поўнасцю знікнуць. Галоўнай дзяржаўнай мовай яшчэ ў 1995 годзе стала мова суседняй дзяржавы, а беларуская, скажам праўду, пакрыху вынішчаецца і вытраўляецца ў поўнай адпаведнасці з тым, што не ўдалося расійскаму царызму раней.

Аднак будзем памятаць пра выказванне таго ж славутага рускага педагога Канстанціна Ушынскага: “Умер язык в устах народа – умер и народ”. Пакуль мы будзем ігнараваць галоўнае – родную мову , адукацыю на ёй, навуку, культуру, гістарычную памяць, сваю нацыянальную адметнасць,– мы будзем і на перыферыі эканамічных дасягненняў, дабрабыту, нас не будуць паважаць іншыя дзяржавы і народы свету. А пакуль трэба ведаць, што яшчэ 10 гадоў назад беларусаў жыло 10,045 мільёна чалавек. Для параўнання цяпер, па дадзеных перапісу, у Беларусі колькасць насельніцтва скарацілася да 9,503 млн. чалавек.

Іншыя статыстычныя дадзеныя таксама не дадаюць аптымізму. У краіне за 10 апошніх гадоў амаль на 30 % скарацілася колькасць дзяцей, а падлеткаў ва ўзросце 10-14 гадоў стала меней на 363 тысячы ( у 1,7 разы ! ). Насельніцтва прыбаўляецца толькі ў Мінску, многія імкнуцца асесці ў абласных цэнтрах і найбуйнейшых гарадах, а доля пенсіянераў вырасла за гэты перыяд на 9,3 %. У краіне існуе дыспрапорцыя палоў, на адну тысячу мужчын прападае ўжо 1150 жанчын. Яшчэ на 10 % зменшылася за 2 так званыя пяцігодкі доля жанатых мужчын і жанчын.

Трывожна і тое, што назіраецца значны рост смяротнасці мужчын, у тым ліку і ў працаздольным узросце. Сапраўды жахліва, што амаль пятую частку сярод жанчын (18%) складаюць удовы, якіх ужо 810 тысяч, як было раней толькі пасля 2-й сусветнай вайны. Яшчэ 463 тысяч дам разведзены, больш палоў з іх у дзетародным узросце. Такая дэмаграфічная стагнацыя пацвярджае, што беларусаў становіцца ўсё меней і аднačасова беларуская мова выцеснена са справаводства, школ, яна амаль не гучыць на асноўных каналах Беларускага тэлебачання. Без ажыўлення і адраджэння роднай мовы не дасягнуць нам нічога ў жыцці, такая сітуацыя прыносіць толькі шкоду краіне і яе народу.

*У працяг тэмы, распачатай у «ВГ» №27 (535) за 8 ліпеня 2010 г., № 28 (536) 15 ліпеня 2010 года, №30 (538) 29 ліпеня2010 года, №31 (539) 5 жніўня 2010 г., № 32 (540) 12 жніўня 2010 года, № 34 (542) за 26 жніўня 2010 год, № 35 (543) за 2 верасня 2010 года, №36 (544) за 9 верасня 2010 года.*

# Ігнапаль
## і яго ваколіцы

**Генадзь Комель**

У апошні дзень жніўня 1939 года ў польскай вайсковай часці, дзе ён служыў у той час, узняўся бунт. Пайшлі зносіць пагранічныя знакі, перайшлі на Сілезскую тэрыторыю і захапілі нямецкую радыёстанцыю ў горадзе Глівіцэ. Выкарысталі яе для перадачы пагроз супраць Германіі. І што цікава, камандавалі гэтай "бузой" польскія афіцэры, ва ўсякім выпадку ў польскім убранні. Але твары іх ён бачыў упершыню.

Так ён трапіў у палон. Праўда, пашэнціла – у савецкі (а мо не пашэнціла?). Апынуўся ў Казельску, з якога быў вывезены на Салаўкі.

Спачатку ў лагерах польскіх ваеннапалонных у Старобіне, Асташкаве, у Казельску панавала падаўленасць духу. Але хутка яны справіліся з навалай і пачалі паказваць прыклад паводзін, годных польскага афіцэра. У Старобінскім лагеры пачалі дзейнічаць групы самаадукацыі, у Казельску–выходзіць нелегальныя журналы "Меркурый" і "Манітор". Паўсюдна падрыхтоўваліся «жывыя» газеты. На кожны лагер прыходзіліся па двары капеланы (вайсковыя ксяндзы).

Паспешлівая падрыхтоўка да "разгрузкі" лагераў распачалася адразу пасля нападу на Фінляндыю. Была дадзена каманда НКВД да студзеня 1940 года падрыхтаваць на кожнага зняволенага дакументы допытаў і крымінальных спраў для іх суда. А палонных у Чырвонай Арміі было каля чвэрці мільёна польскіх салдат і афіцэраў. У Казельску, напрыклад, 4,7 тысячы, у Старобінскім – каля 4 тысяч, а ў Асташкаве – каля 6,5 тысяч служачых паліцыі і жандармерыі. Большасць палонных афіцэраў былі афіцэрамі запасу – эліта польскай інтэлігенцыі. Нагляд над лагерамі выконвала НКВД СССР, яго аддзел па справах ваеннапалонных, які ўзначальваў П.К. Супруненка, былы супрацоўнік Берыі, камісар унутраных спраў СССР.

20 лютага 1940 года Супруненка прапанаваў Берыі (з вялікай верагоднасцю – па падказцы Берыі) план лёсу ваеннапалонных 1 100 – 1 200 чалавек на кожны дзень. Двума днямі пазней намеснік Берыі В. Меркулаў даў дазвол аб пераводзе ваеннапалонных у турмы. На наступны дзень былі выдадзены інструкцыі, а з пачатку сакавіка іх пачалі выконваць. Але ўжо 5 сакавіка Палітбюро ЦК ВКПб вынесла рашэнне аб расстрэле ўсіх польскіх ваеннапалонных спецлагераў і 11 000 палякаў, якія знаходзіліся ў лагерах і турмах. Саўнаркам прапанаваў перасяліць 22 тысячы ваеннапалонных з Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны.

Лепшы знаўца матэрыялаў па Катыні Н.С. Лебедзева (РАН) не знайшла дакументаў, якія б растлумачылі прычыны знішчэння ўсіх польскіх афіцэраў. Неабходна адзначыць, што рашэнне аб знішчэнні было прынята за дзень да заключэння перамір'я паміж СССР і Фінляндыяй. У большасці дакументаў трафарэтна тлумачыцца (і лепшымі даследчыкамі) асабістая непрыязь Сталіна да польскіх афіцэраў за паражэнне ў Варшаўскай кампаніі 1920 года, у якой ён быў камісарам. Маё асабістае меркаванне, што Сталін не мог не ўлічваць тых абставін, што польская армія па ваеннай муштры-падрыхтоўцы, патрыятычным выхаванні, па вопыту ўтварэння ваенізаваных фарміраванняў у падполлі – гэта армія, роўню якой цяжка знайсці у сусветнай практыцы. Вазьміце адну ўсяго кнігу – "Гісторыю Польшы" аўтараў Аліцыі Дыбоўскай, Малгажаты Жарэн і Яна Жарэна і ўважліва-ўважліва вывучыце, і Вы гэтую думку зразумееце.

Як даехаў Сайкоўскі да Салаўкоў, я магу толькі ўявіць. Запомніліся толькі словы, што даехала мо трэць людзей. Як выконвалася адпраўка з лагера, можна ўявіць, прачытаўшы артыкул "Здрада" з кнігі Івана Данілава "Неудобная история" паводле ўспамінаў Франца Кушаля.

Аб тым, што і сапраўды ён быў на Салаўках, сведчыць тое, што ён у пачатку нямецкай акупацыі прыйшоў на свой хутар Махавік у манаскай сутане – адзенні манахаў. Падчас акупацыі паспеў паслужыць у самаахове ў гарнізоне Залессе-Двор, у палацы графа Моле. Што гэта за абаронцы, можна ўявіць па такім факце. Аднаго хлопца адпусцілі схадзіць да бацькоў. Вось ён падышоў да вёскі Кур'янава і з куражу захацелася яму выстраліць, а затвор так і не змог закрыць.

У 1944 годзе Сайкоўскі пайшоў на фронт, служыў у дывізіі Касцюшкі. З 1981 года гэты чалавек-эпоха ціха і незаўважна ляжыць на могілках вёскі Узрэчча. Калі-нікалі на могілкі прыходзяць вучні і кладуць кветкі савецкім воінам-вызваліцелям, яго ж магілка пустуе – ён жа жолнеж[1].

Асабіста для мяне гэты факт не з'яўляецца чымсьці незвычайным. Бо ў мяне стрыечны брат з намнога багацейшай гераічнай біяграфіяй, пра якую я апавядаў загадчыку ваеннай гісторыі НАН РБ Літвіну. Па ягоным загадзе я напісаў для яго архіва. Напісаў. Ну і што. Ляжыць нерухома ўжо 4 гады.

[1] салдат






**Вёска Узрэчча. Могілкі. Надмагільны помнік Іосіфу Сайкоўскаму.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

### Павэлак

– Павэлак! Каб цябе халера! Зноўку надзеў свае бляшкі! Табе што, не надаела, што на цябе тыцкаюць пальцамі, як на дурня!...

І гэтая "малітва" пачыналася кожны раз, як толькі ён надзяваў сваю "гімнасцёрку" польскага жаўнера дывізіі імя Касцюшкі, на якой красаваўся крыж "Віртуці мілітары". Жыхары вёсак ведалі Георгіеўскі крыж. І нават з такімі ўзнагародамі на людзях не з'яўляліся. Медаль за перамогу над Германіяй – гэта медаль! А тут невядома якія медалі.



Павел Рабіза

Павэлак – гэта Павел Адамавіч Рабіза, 1912 года нараджэння з вёскі Пашкі цяперашняга Шкунцікоўскага сельсавета Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці. У 1944 годзе, як прыйшла Чырвоная Армія ў нашы мясціны, з першых дзён усіх забралі на фронт (забралі, а не мабілізавалі, бо ўказа Вярхоўнага Савета аб мабілізацыі не было, вось і атрымаліся добраахвотнікі). Такім чынам, ён апынуўся ў войску арміі польскай. А як мову ведаў, то калісьці за польскім часам служыў у польскім войску.

Я ж на 22 гады маладзейшы за яго, але памятаю, як ён прыязджаў да нас (а прыязджаў даволі часта, бо усё ж такі мой стрыечны брат) і плакаў, кульнуўшы чарку, ад абразы сваіх узнагарод. З цягам часу перастаў надзяваць свае адзежы з узнагародамі, бо ўсіх зазывалі на розныя дзяржаўныя святы і ў прэзідыум, а на яго толькі тыцкалі пальцамі як на чалавека, у якога "не ўсе дома". З маім бацькам, франтавіком Чырвонай Арміі, яны ўспаміналі, а я слухаў і слухаў цікавыя гісторыі. Так мне стала вядома франтавая гісторыя Павэлка.

Не ведаю дакладна дзе, але, вядома ж, на польскай зямлі, калі ўжо дні са тры, а мо й больш, як прайшоў фронт, вось гэтыя "палячкі" (усе нашыя заходнікі-беларусы) ішлі калонай без усялякай бакавой і перадавой аховы. І вось жа, як на грэх, захацелася нашаму Павэлку збегаць у кусты. Пасядзеў ён там і давай даганяць сваіх. Ды як на тую біду разматалася на назе абмотка (гэтае вынаходніцтва яшчэ царскага часу). Корпаўся Павэлак са сваім абуткам, а тут глядзіць – нямецкая калона, ды й не маленькая. Вядомая справа – кінуўся ў бліжэйшы куст, ды ад удару спрацаваў ППШа.Так і прыйшлося расстраляць усе 72 патроны. Завязаўся сапраўдны бой. Але й пашанцавала – дзесьці збоку запрацаваў "дзяхцяр" – рускі кулямёт. Павэлак і кінуўся ў той бок. Ды зноўку прыгода. Пад кустом маёр Чырвонай Арміі просіцца: "Палячок, дабі мяне". – "Які я табе палячок, так ды гэтак тваю маць! Залазь на спіну!" Так і дабраліся да кулямёта.

Вось і атрымалася, што Павэлак першым распачаў бой. Яму залічылі каля 20 фашыстаў, вынас з поля бою параненага чырвонага камандзіра. Ужо ўзнагароджаны вышэйшай узнагародай Польшы, удзельнічаў у баях за вызваленне вязняў Майданэка, дзе яго пасля бою прымусілі быць камендантам лагера, вадзіць амерыканцаў, расказваць і паказваць ім, якую гаспадарку вялі немцы: валасы чалавечыя, рассартаваныя па даўжыні й нават па колеру, абутак дзіцячы й дарослы паасобку, і нават па якасці – паасобку. Вось у гэтым месцы свайго расповеду Павэлак заўсёды плакаў, доўга і няўцешна.

Так і дажыў Павэлак свой век нікому не патрэбным дзіваком. Бог дзетак яму не даў, а братоў і сясцёр па свеце параскідаў. Меншая Тоня аказалася ў Магілёве, Ліда – у Маркаўшчыне, а старэйшая Аліса ды брат Анатоль – у далёкім Таліне. У Анатоля жыццё такое пакручастае атрымалася, што хоць пішы дэтэктыў, але й ворагу не пажадаеш такога, мо таму, ды й напэўна таму і памёр у 48 гадоў ад інфаркту. Хацелася б хоць збольшага расказаць аб яго жыцці калі-небудзь, але не ведаю, як атрымаецца. У многіх беларусаў жыццё такое ламанае-пераламанае... Мо й сядзяць таму яны, як мышы пад венікам, нашы браты-беларусы.

Вось і атрымліваюцца такія, напрыклад, дзівосы. Я трымаю ў руках кнігу «Память» Шаркоўшчынскага раёна. У прыватнасці, у ёй ёсць спіс удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, дакладнае месца жыхарства якіх не ўстаноўлена. Чорным па белым тут напісана: "Рабіза Павел Адамавіч, нарадзіўся ў 1912 годзе, радавы, на фронце з ліпеня 1944 года па май 1945 года".

Людцы добрыя! Зірніце на здымак. Гэта ён, мой стрыечны брат Рабіза П.А., не так даўно памерлы. Я ўпэўнены, што знойдуцца людзі, якія яго добра ведалі і закінуць слоўца за небараку.

Як успамінае Г.С. Паўлоўскі ў сваёй кнізе "Товарищи в борьбе", у Майданэку было знішчана каля 1,5 млн. чалавек, ён бачыў груды абгарэлых чалавечых касцей. Гэта пацвярджае расказ Павэлка аб абутку і чалавечых валасах. Праўда, гідам быў вязень Майданку, але ўсё-такі Паўлоўскі і Павэлак былі саслужыўцамі.

Услухайцеся ў гэтае "Павэ-э-лак", і адразу ўяўляецца, што вось толькі адпусцілі яго– і ён будзе ляжаць. Але я спадзяюся, што мы ўсё-такі Ванькі-ўстанькі. Палажыце такую цацку, якую колькі ні лажы, а яна, толькі адпусціў, будучы вольнай, заўсёды стаіць. Спадзяюся, што не толькі да мяне дайшоў сэнс той прыпевачкі, якую праспявалі на тэлебачанні яшчэ падчас парабудовы:

**"С неба звёздочка упала
Прямо милому в штаны.
Пусть всё там разорвало –
Лишь бы не было войны."**

І ўявіў я таго мужычка, якому ўжо аднолькава, што ў штанах, што без штаноў, што з вайной, што без вайны.

*Працяг будзе*

**Генадзь Плавінскі**

# 440 гадоў Іосіфу Корсаку

**Спякотнае лета 2010 года нагадала аб жорсткіх бітвах нашых продкаў на Грунвальдскім полі. Яркай асобай таго часу быў князь Вітаўт. Ён быў не толькі рыцар, але і мудрэц.**

Маладзечанскі гісторык Мікола Ермаловіч у артыкуле “Належыць да ліку самых выдатных” прыйшоў да высновы “...менавіта Вітаўт першы падаў думку аб уніі каталіцкай і праваслаўнай цэркваў у дзяржаве”.

Зараз многія веруючыя лічаць такую ініцыятыву памылковай. Але ж ідэя збліжэння канфесій жыве шэсць стагоддзяў. Больш таго, унія каталіцкай і праваслаўнай канфесій была рэальнай на працягу 243 гадоў, з 1596 па 1839 гады.

На нашай беларускай зямлі дзясяткі пакаленняў хрысціян балюча асэнсоўвалі канфесійныя спрэчкі праваслаўных і католікаў. Нашых продкаў спрадвечна называюць верацярпімымі да думкі другіх.

Запавет Ісуса Хрыста “Каб усе былі адно...” (Ад Іоанна, гл.17, с.21) не мог не быць перад вачыма набожных полацкіх князёў роду Корсакаў.

На мой погляд, на гербе Корсакаў на шчыце можна чытаць: Хрыстос з намі. Каб усе былі адно. (Палавінкі яйка – праваслаўе і каталіцызм – скаваны колцам у адно цэлае). Гербу рода Корсакаў каля 500 гадоў.

Разгледзім паслядоўна па часе выявы герба Корсакаў на пячатках (Крыніца: С.Рыбчонак, У.Свяжынскі. «Радавод Корсакаў герба Корсак»).

Пячатка Гераніма Корсака 1649 г. Пасля Уніі 1596 г. мінула 53 гады. На малюнку герба кальцо, ад якога адыходзяць палавінкі, але гэта ўжо надзея зрастаючых палавінак хрысціянскіх сясцёр-цэркваў.

Угледзімся ў пячатку Антонія Корсака 1748 г. Мінула яшчэ 99 гадоў. Ужо відаць, што палавінкі яйка прараслі праз кальцо, імкнуцца стаць самастойнымі. І галоўнае, такая трактоўка герба была зашыфравана для прадстаўлення каралю.

Афіцыйна герб роду Корсакаў выглядае так: на чырвоным полі шчыта два жалезныя (срэбныя) якары, дугамі адзін да другога павернутыя, злучаныя паміж сабой агнівам. У кароне – тры страусавыя пёры.(С. Рыбчонак, У. Свяжынскі. «Радавод Корсакаў герба Корсак»).

Цяпер часта гавораць аб эканамічным крызісе. Але ўсё часцей грукае ў душы людзей маральны і духоўны крызіс. А як жыць маладым, якія згубілі альбо не знайшлі надзею на заўтра? Гэта – адна з прычын пашырэння п’янства, разбэшчанасці, бездухоўнасці.

Выйсцем з эканамічнага і духоўнага тупіка можа стаць пошук дарогі да Бога і актыўныя крокі да збліжэння канфесій хрысціянства, найперш праваслаўнай і каталіцкай.

У значнай ступені садзейнічалі станаўленню духоўнасці глыбачан знакамітыя храмы. Іосіф Корсак ахвяраваў сваё багацце – маёнткі з квітнеючымі землямі, ваколіцы Глыбокага на пабудову храмаў. Гэтае багацце стварылі людзі, перабудавалі і захавалі святыя храмы. Велічнасць душы, празарлівасць і гаспадарлівасць фундатара ўвасобілася ва ўсведамленні, што Божы храм будзе несці наступным пакаленням глыбачан святло духоўнасці і веры.

У Іосіфа Корсака не было дзяцей, ён родны край любіў і пакінуў нам у спадчыну сваё багацце – храмы, якія і сёння – яго дзеці. Яны і праз стагоддзі – гонар наш, наша адметнасць. Дух набожнасці гаспадароў мястэчка і навакольных маёнткаў і сёння пануе на Глыбоччыне. Корсак стварыў Дом Богу, Храм глыбачанам, помнік сабе. Два горда ўзвышаюць свае крыжы, а трэці зняверчаны 60 год таму.

Перад веліччу святых старажытных муроў схілім галовы ў гонар памяці сына Глыбоцкай зямлі.

Віцебскі скульптар Аляксандр Гвоздзікаў у канцы мінулага стагоддзя зрабіў макет скульптуры-бюста Корсака з паднятым гербам роду Корсакаў. На жаль, гэтая скульптура не ўпрыгожыла плошчу ля фантана. Як са скрухай сказала глыбачанка Тацяна Сауліч: ”Яшчэ не саспеў час для такога помніка”.

А ўсё-такі час надыходзіць. Праз чатыры гады горад будзе святкаваць сваё 600-годдзе. Няўжо глыбачане не ўшануюць Іосіфа Корсака, якога можна найперш назваць Ганаровым грамадзянінам горада Глыбокае? Я веру ў маральнасць глыбачан, якія павінны ўшанаваць “...Іосіфа Корсака, якому Глыбокае ўдзячна за тое, што яно такім ёсць цяпер”. Так справядліва сказаў у 1935 годзе гісторык Атон Гедэман.

Хочацца, каб Корсак быў у сэрцы веруючых глыбачан. Задумаемся, шаноўныя, адкуль набожнасць, духоўнасць і гаспадарлівасць глыбачан? І ўспомнім добрай думкай Іосіфа Корсака.



Герб Корсак



JÓZEF KORSAK (✝ 1643)*).



**Пячатка Корсака. Пачатак 16 ст. Прыватная калекцыя.**



**Пячатка Гераніма Корсака, 1649 г.**



**Пячатка Антонія Корсака, 1748 г.**



Герб Корсака пад купалам царквы Раства Багародзіцы. *Фота І. Касевіча, 27.07.2010 г.*

# У Гродне пры пракладцы вадаправода знойдзены старадаўні меч

**Зброя, знойдзеная пры пракладцы вадаправода па вуліцы Матросава, хутчэй за ўсё належала шведам.**

Экскаватаршчык на двухметровай глыбіні заўважыў незвычайны шэры металічны прадмет. Першым узяў яго ў рукі галоўны інжынер БУ178 Мікалай Дырында. Меч амаль метровай даўжыні са шчарбінай захаваўся ідэальна. Пошук у Інтэрнэце падобнай зброі даў здагадку, што гэта зброя скандынаваў. Шчарбіна на мячы дазваляла ў бai вырываць дзіды ў суперніка.



Раней яшчэ адзін меч быў знойдзены пры рэканструкцыі плошчы Савецкай.

Гэту знаходку паблізу Старога замка можна неяк растлумачыць. Але вось на празванай гарадзенцамі Палестыне, калісьці ўскраіне горада, толькі гісторыкі могуць адказаць на пытанне, якая і калі тут адбылася бітва.

Гарадзенскае БУ178 спецыялізуецца па пракладцы інжынерных сетак і камунікацый на тэрыторыі горада. Па ўспамінах яго работнікаў, пры раскопках часцей за ўсё знаходзілі міны, бомбы, каскі часоў Вялікай Айчыннай вайны.

*Мікалай ШЛЫК*

**Увага! Новы фотаконкурс**

## Людзі і выбары

Інтэрнэт-сайт SVABODA.ORG праводзіць фотаконкурс, прысвечаны штодзённаму жыццю падчас выбарчай кампаніі. Здыміце падзеі, твары, сытуацыі і прышліце на адрас radiosvaboda@gmail.com.

Усе аўтары апублікаваных здымкаў атрымаюць флэшку 4 GB, а пяць пераможцаў атрымаюць відэакамэру Flip.

# БРАКАНЬЕРЫ АТРЫМАЮЦЬ ПА ЗАСЛУГАХ

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Шмат пішацца і гаворыцца пра браканьерства, але, на жаль, менш яго не становіцца. Кожны тыдзень супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі затрымліваюць на вадаёмах браканьераў, і ўлоў у іх велізарны.**

10 верасня 2010 года каля 18 гадзін супрацоўнікамі міжрайінспекцыі на возеры Вялікая Пліса быў затрыманы жыхар в. Азерцы Глыбоцкага раёна грамадзянін П., які пры дапамозе сетак здабыў больш за 4 кг рыбы, але за ўсё трэба плаціць, а за браканьерства тым больш.

18 верасня 2010 года ад неабыякавага да захавання нашай прыроды грамадзяніна намесніку начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету Фядзічкіну Аляксандру Аляксандравічу паступіла паведамленне пра тое, што на возеры Шо Глыбоцкага раёна трое браканьераў ловяць рыбу сеткамі. Нягледзячы на тое, што Фядзічкін Аляксандр знаходзіцца ў адпачынку, ён арганізаваў выезд рэйдавай групы і доўгі час вышукваў браканьераў, бо яны лавілі рыбу з боку лесу і балота. У выніку рэйдавая група інспекцыі затрымала траіх жыхароў г. Наваполацка, якія пры дапамозе 14 сетак ажыццяўлялі лоўлю рыбы на возеры Шо, спадзеючыся, што іх ніхто не ўбачыць і не знойдзе. Браканьеры здабылі 401 асобіну ляшча, 40 асобінаў плоткі, 26 асобінаў акуня, 11 асобінаў ляшча, 3 асобіны ліна. Улоў быў добры. Настрой у браканьераў быў вельмі добры, але яго сапсавалі супрацоўнікі інспекцыі. Шкода, нанесеная прыродзе, склала больш за 15 млн. рублёў. Ацэнку дзеянням браканьераў дасць Глыбоцкі РАУС і раённы суд, а свеціць браканьерам да 6 гадоў пазбаўлення волі.

13 верасня 2010 года на возеры Гінькава Глыбоцкага раёна супрацоўнікамі інспекцыі затрыманы жыхар в. Прошкава Глыбоцкага раёна, які ажыццяўляў лоўлю рыбы сеткамі. Парушальніка чакае грашовы штраф.

Вялікі дзякуй грамадзянам, якія аказваюць дапамогу інспекцыі ў барацьбе з браканьерствам.

Пра ўсе вядомыя здзейсненыя факты парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: 8-02156-2-86-70 – кругласутачна

Начальнік інспекцыі: маб. 897-23-02, інспектары: 890-55-28, 890-55-28, 249-45-49, 308-01-23.

# «Лоўля рыбы ў ахоўных зонах ліній электраперадач – небяспечная для жыцця»

■ **А.Н. Ішуцін,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА « Энерганагляду»*

Дзеючыя электраўстаноўкі небяспечныя для жыцця і здароўя чалавека, а паражэнне электрычным токам можа адбыцца без дакранання пры набліжэнні да токаводных частак на небяспечную адлегласць. Любога роду дзеянні ў непасрэднай блізкасці ад электраўстановак могуць прывесці да трагічных наступстваў.

07.09.2010 г. у ахоўнай зоне паветранай лініі электраперадач 110 кв «ГСМ-330-Заходняя №3» у 15 гадзін 29 хвілін на беразе вадаёма ў пралёце апор №27-28 быў выяўлены пацярпелы Шацiла С.А. без прыкмет жыцця. На месцы здарэння былі выяўлены аплаўленыя і распушаныя рэшткі вудзільна шклопластыкавай вуды завадскога вырабу, аплаўленае і абгарэлае складанае партатыўнае крэсла, над месцам здарэння на праводзе фазы «А» бачныя сляды аплаўлення і прыгарэўшыя часткі вудзільна.

Падчас расследавання ўстаноўлена, што пацярпелы пры закідзе вуды крануў правады фазы «А» і ў выніку перакрыцця быў смяротна траўміраваны электрычным токам.

На месцы здарэння ўсталяваны папераджальны плакат пра забарону лоўлі рыбы ў месцы праходжання ўчастка ВЛ праз вадаём.

Для недапушчэння падобных выпадкаў трэба ведаць, што:

- рыбная лоўля ў ахоўных зонах ліній электраперадач строга забаронена.
- паражэнне электрычным токам можа адбыцца не толькі ў выніку дакранання да токаводных частак ( правадоў ЛЭП), але і пры набліжэнні да іх на недапушчальную адлегласць.

## ДАІ інфармуе:

# 22 верасня - Сусветны дзень без аўтамабіля

■ **К.Б. Юхневіч,**
ст. дзяржаўтаінспектр.

Занадта вялікая колькасць машын – праблема не толькі вялікіх гарадоў. Яна ўжо досыць даўно з'яўляецца глабальнай, бо аўтатранспарт руйнуе і біясферу планеты, і самога чалавека. Штодня ў свеце з'яўляецца больш за 100 тысяч новых аўтамабіляў. Падлічана, што кожны дзень пад калёсамі гіне больш за 3000 чалавек. Кожны аўтамабіль на ўсіх этапах свайго існавання, ад вытворчасці да ўтылізацыі, вельмі негатыўна ўплывае на здароўе планеты, пакідаючы адыходаў амаль у 50 раз больш сваёй масы і забруджваючы паветра прыкладна гэтак жа, як выкіды вытворчых прадпрыемстваў цэлага горада. У сярэднім пры прабегу 15 тыс. км аўтамабіль спальвае 2 т паліва і спажывае 30 т паветра. Пры гэтым у атмасферу выкідваецца 700 кг угарнага газу, 400 кг дыяксіду азоту, 230 кг вуглевадародаў. Аўтапарк нашай рэспублікі налічвае каля 3 млн. машын і матацыклаў. Штогод яго колькасць павялічваецца на 3-4%. Беларускі аўтатранспарт кожны год выкідвае ў навакольнае асяроддзе больш за 1,2 млн.т забруджвальных рэчываў, многія з іх вельмі таксічныя. Хімічныя злучэнні ў складзе выхлапных газаў неспрыяльна ўплываюць на дыхальную і сардэчнасасудзістую сістэму чалавека, выклікаюць паслабленне імунітэту, што, у сваю чаргу, прыводзіць да абвастрэння хранічных захворванняў. Выхлапныя газы становяцца таксама чыннікам такіх сур'ёзных захворванняў, як рак лёгкіх і свінцовыя атручванні.



І гэта толькі адзін бок праблемы. Рост канцэнтрацыі шкодных рэчываў ад аўтатранспарту ў паветры не толькі наносіць шкоду чалавеку, раслiннаму і жывёльнаму свету, але і становіцца адной з галоўных прычын глабальнай змены клімату на Зямлі.

Пры ўсім гэтым тэмпы вытворчасці працягваюць расці: аўтамабіль знаходзіцца на трэцім месцы сярод самых рэкламуемых тавараў пасля алкаголю і тытуню. Традыцыя праводзіць Дзень без аўтамабіляў (World Day Without Car) нарадзілася ў 1998 годзе ў Францыі. Тады гэты дзень адзначалі ўсяго каля двух дзясяткаў гарадоў. Затое ўжо да 2001 года да руху афіцыйна далучыліся больш за тысячу гарадоў у 35 краінах свету. А 2 гады назад і Рэспубліка Беларусь упершыню далучыліся да сусветнай акцыі «Дзень без аўтамабіля». Разумеючы, што ў сучасных умовах цалкам адмовіцца ад аўтамабіляў проста немагчыма, кіраўнікі гарадоў і розных арганізацый хацелі б нагадаць грамадскасці пра праблемы, якія нясе з сабой аўтатранспарт, хаця б раз у год. Буйныя гарады Еўропы ў гэты дзень скарачаюць выкарыстанне аўтамабіляў для паездак па горадзе на карысць трамвая, тралейбуса, аўтобуса, метро і іншых відаў. Але кожнай краіне самастойна гэтых праблем не вырашыць. Важна аб'яднаць і скаардынаваць намаганні ў гэтай галіне ўсіх зацікаўленых дзяржаў. Дзяржаўтаінспекцыя ў гэты дзень заклікае ўсіх адмовіцца ад паездкі на аўтамабілі, а выкарыстоўваць магчымасці грамадскага транспарту, а таксама ровараў і пешай хады, каб «Дзень без аўтамабіля» стаў традыцыйным не толькі для адной краіны, а ператварыўся ў важную экалагічную падзею сусветнага ўзроўню.

# У Беларусі абвешчаны рэспубліканскі конкурс інавацыйных праектаў

**Дзяржкамітэт па навуцы і тэхналогіях (ДКНТ) Беларусі абвясціў аб правядзенні рэспубліканскага конкурса інавацыйных праектаў.**

Мэта конкурса – спрыяць рэалізацыі перспектыўных інавацыйных праектаў, пошуку інвестараў, камерцыялізацыі вынікаў навуковых даследаванняў і распрацовак.

Прадстаўленыя на конкурс інавацыйныя праекты павінны адпавядаць прыярытэтным напрамкам навукова-тэхнічнай дзейнасці ў Беларусі.

Конкурс праводзіцца ў намінацыях «Лепшы інавацыйны праект» і «Лепшы маладзёжны інавацыйны праект».

У конкурсе могуць удзельнічаць як юрыдычныя, так і фізічныя асобы. У маладзёжнай намінацыі ўзрост удзельнікаў не павінен перавышаць 35 гадоў.

Пераможца кожнай з намінацый атрымае прэмію ў памеры 50 базавых велічынь. Памер прэмій за другое і трэцяе месцы складзе 30 і 20 базавых велічынь адпаведна. Пераможцам і прызёрам будуць уручаны адпаведныя дыпломы.

Конкурс праводзіцца ў тры этапы: прыём заявак і папярэдні адбор праектаў (да 15 кастрычніка 2010 года); экспертыза інавацыйных праектаў (да 1 лістапада); вызначэнне пераможцаў і прызёраў (лістапад — для намінацыі «Лепшы маладзёжны інавацыйны праект», снежань — «Лепшы інавацыйны праект»).

Для ўдзелу ў трэцім этапе конкурса экспертным саветам у кожнай з намінацый адбіраюцца не больш за 12 інавацыйных праектаў.

Уся неабходная інфармацыя размешчана на сайце конкурса: http://konkurs.polytechnic.by.

*Марына Носава, БелаПАН*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

27 верасня – 3 кастрычніка 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 27 верасня





**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.20** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15**«Доброеутро,Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.40, 11.50** Деловая жизнь.
**08.45** Слово Митрополита Филарета на праздник Воздвижения Креста Господня.
**09.05 «Аннушка»**
**10.00** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Мне 16. Я беременна».
**11.00 «Последний кордон»** (Россия).
**12.10 «Хильдегарде»** (Австралия).
**13.45** «OFF STAGE LIFE» с Вадимом Мезгой.
**14.05** Фильм «Наталья Медведева. Антизвезда».
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.30** «Цифровые наркотики».
**15.55 «Доярка из Хацапетовки. Вызов судьбе»**
**16.45 «Спальный район» (Россия).**
**17.45 «Последний кордон»** (Россия).
**18.50**, 01.20 «Зона Х»
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55 «Аннушка»**
**21.00** Панорама.
**21.55** «Печки-лавочки».
**22.10 «Апостол»**
**23.35** триллер **«Идеальное ограбление»**
**01.25** День спорта.





**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Шальной ангел».**
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Контрольная закупка».
**13.45**«Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Дикий молодняк».
**16.45** «Битва титанов».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20**«Обратный отсчет». «БелорусскийКувейт». Ставка на черное».
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.10**Премьера.«Голоса».
**23.10** Наши новости.
**23.25** Новости спорта.
**23.30** «Голоса».
**00.25 «Евлампия Романова. Следствие ведет дилетант»**.
**01.15** Наши новости.
**01.25-01.35** Новости спорта.







**06.35 «Универ»**
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Люди Шпака»**.
**09.05 «Любовь как любовь»**
**10.05 «Голдфингер»**
**12.05** Пра мастацтва.
**12.30** Школа ремонта.
**13.35 «Полюби меня снова»** (Мексика).
**14.30** Внеклассный час.
**14.40** Телебарометр.
**15.00**Простые упражнения
**15.35 «Налетчики»**
**16.25 «Люди Шпака»**.
**17.30** Женская лига.
**18.00 «Любовь как любовь»**
**19.05«Семь стариков и одна девушка»**
**20.45** Калыханка.
**21.05** Телебарометр.
**21.10** Белорусское времечко.
**22.15 «Интерны»**
**22.55 «Универ»**
**23.25** Овертайм.
**23.55** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**00.50 «Налетчики»**

СТВ REN TV — ТЭЛЕКАНАЛ "СТВ"

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.»
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.»
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40**«Богатая и любимая».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастические истории».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Ева Ривас против группы«Крамбамбуля».
**15.00**КонцертМ.Задорнова.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».



**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15**«Добрый вечер, малыш».
**20.30**ПРЕМЬЕРА!**«ЖARA»**. Россия, 2006 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичн. футбол».
**23.25** «Кино»: **«КОРОЛИ УЛИЦ»**. США, 2008 г.

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Гісторыя пад знакам Пагоні : «Мікалай Радзівіл Чорны»
**07:40** Прэс-экспрэс
**07:55** ПраСвет
**08:20** Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча: «Смак Ямайкі»
**08:45** Рэмарка
**09:05** Моўнік
**09:20** Басанож па свеце : «Горад у джунглях»
**09:45** «Крызіс у раі», дак. фільм, 2009 г., Беларусь
**10:45 «Таямніца крэпасці шыфраў»** 13 серыя
**11:30** Фільматэка майстроў: **«Падарожжа ў прэрыі»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Тры шалёныя нулі»** 10 серыя
**17:35 «Таямніца крэпасці шыфраў»** 13 серыя
**18:20** Госць «Белсату»
**18:40** Невядомая Беларусь: «Як пошуг маланкі», рэпартаж, рэж. Валеры Мазынскі, 2010 г., Беларусь
**19:10** Прэс-экспрэс
**19:25** Калыханка для самых маленькіх
**19:35** Еўропа сёння
**20:00** «З выцягнутымі рукамі» дак. фільм
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прыватная калекцыя
**21:45** Фільматэка майстроў: **«Падарожжа ў прэрыі»**
**23:30** Аб'ектыў

# Ñìà÷íûÿ ñòðàâû ç ë³ñ³÷àê

**Прыгравае сонейка, ідуць грыбныя дажджы - пара збірацца ў лес па грыбы, бо першыя смачныя ліічкі чакаюць вас.**

У лісічак шмат прыхільнікаў дзякуючы іх выдатнаму густу і водару. Добра вядомы ядомы грыб, высока шануецца ў гурманаў і простых кулінараў, падыходзіць для ўжывання ў любым выглядзе, але найсмачнейшыя лісічкі смажаныя. Яны добра захоўваюцца і транспартуюцца. Дзякуючы адсутнасці "чарвякоў", лісічкі лічацца кашэрнымі. Кіславаты смак сырой мякаці выдаляецца пры адварванні.

Лісічка ўтрымлівае 8 незаменных амінакіслот, вітаміны А, В1, РР, мікраэлементы (медзь, цынк). Лічыцца, што ўжыванне грыба спрыяе паляпшэнню зроку, прадухіляе запаленні вачэй, памяншае сухасць слізістых абалонак і скуры, павялічвае ўстойлівасць да інфекцыйных захворванняў.

### Гарачыя бутэрброды з лісічкамі

Інгрэдыенты: 400 г белага хлеба, 4 ст. л. сметанковага масла, 800 г лісічак, 2 сцябла парэю, 1/2 ч. л. солі, 1 ст. л. зелені пятрушкі

Разрэзаць белы хлеб на 8 кавалкаў таўшчынёй прыкладна па 3 см. Абрэзаць скарыначку так, каб кавалак меў квадратную форму. Растапіць 3 ст. л. сметанковага масла, абсмажыць кожны кавалак з двух бакоў. Пасля гэтага трымаць у духоўцы гарачымі. Вялікія грыбы разразаць напалову ці на 4 часткі. Нашынкаваць цыбулю і абсмажыць у масле. Дадаць грыбы і смажыць на працягу 10 хвілін. Затым пасаліць і пасыпаць пятрушкай. Пакласці грыбы на хлеб, а астатнія - хораша раскласці побач.

### Тарталеткі з лісічкамі

Інгрэдыенты:160 г гатовага салёнага пясочнага цеста, 500 г лісічак, 40 г сметанковага масла, 1/4 ч. л. солі, 1-2 сцяблы зялёнай цыбулі, пятрушка, па 2 ст. л. алею і віннага воцату, па 2 ст. л. слівак і маянэза, 4 формачкі для выпечкі тарталетак, молаты кмен і чорны молаты перац па густу

Раскатаць цеста, выкласці яго ў формачкі і пячы 10-12 хвілін у духоўцы, разагрэтай да тэмпературы 220 градусаў. Гатовыя скарыначкі астудзіць. Лісічкі абсмажваць у сметанковым масле 10-12хвілін, дадаўшы соль і кмен. Даць лісічкам астыць. Цыбулю і пятрушку дробна пасекчы. Алей змяшаць з воцатам, цыбуляй, пятрушкай, молатым перцам і дадаць гэту сумесь у грыбы. Напоўніць грыбамі тарталеткі. Сліўкі ўзбіць, змяшаць іх з маянэзам і пакласці на тарталеткі.

### Салата з лісічак з сырам

Інгрэдыенты:8 лістоў салаты,300 г свежых лісічак, 200 г сыру, 1/2 пучка зялёнай цыбулі, 1/2 пучка пятрушкі, 30 г сметанковага масла, 2 ст. л. воцату, 4 ст. л. алею,1 ч. л. салодкай гарчыцы,соль, 2-3 зубчыкі часнаку.

Нарэзаць салату невялікімі кавалкамі, падзяліць іх на 4 порцыі па талерках. Парэзаць зеляніну, сыр саломкай, пачысціць лісічкі, разагрэць сметанковае масла на патэльні, злёгку абсмажыць грыбы, пры неабходнасці іх парэзаць на невялікія кавалачкі. Раскласці грыбы па талерках з салатай, пасыпаць зверху сырнай саломкай і сечанай зелянінай. Воцат змяшаць з 5 ст. л. воды, алеем, гарчыцай і соллю, дадаць выціснуты сок часнаку. Марынадам паліць салату.

# ßê ïðàâ³ëüíà ñóøûöü ãðûáû?



**Як прыемна прайсціся па лесе з кошыкам, удыхаючы водарыігліцы, травы, сырой і цёплай пасля дажджу зямлі! А прыйшоўшы дахаты, раскласці на газетцы сабраны ўраджай духмяных белых, чырвонагаловікаў, падбярозавікаў і сыраежак.**

■ Юлія Сініца

Як жа захаваць гэты ні з чым не параўнальны водар да зімы, калі марозным днём так захочацца гарачанькага духмянага грыбнога супчыку з бульбачкай ?

Сушыць грыбы можна рознымі спосабамі. Памятаю, калі я была зусім маленькай, мы з бабуляй займаліся нанізаннем грыбоў на нітку. Бралі іголку, усоўвалі ў яе тоўстую нітку і пачыналі нанізваць. Грыбы папярэдне былі старанна пачышчаныя. Прызначаныя для сушкі грыбы не мыюць, а толькі чысцяць ад смецця і выразаюць пашкоджаныя месцы (прамытыя грыбы дрэнна сохнуць).

Бабуля наразала іх не надта тоўстымі і не надта тонкімі лустачкамі, каб яны раўнамерна прасушыліся, і аддавала мне, раячы нанізваць не цесна адзін да аднаго, каб паміж грыбамі падчас сушкі цыркулявала паветра.

Нанізаўшы такую нітачку даўжынёй прыблізна сантыметраў трыццаць ці сорак, я прывязвала да канцоў ніткі запалкі і падвешвала іх на кухні над газавай плітой, як навагоднія гірлянды.

А вось мама мая за адсутнасцю вольнага часу проста раскладвала грыбы на бляху і сушыла іх у духоўцы. Дакладней сказаць, яна іх там проста злёгку падвяльвала, а потым раскладвала на стале і дасушвала на адкрытым паветры. Інакш ёсць рызыка іх паперасушваць, тады грыбы страцяць свой водар і пажыўныя рэчывы.

Тэхнічны прагрэс не стаіць на месцы. Якіх толькі прыстасаванняў не з'явілася з тых часоў для таго, каб палегчыць гаспадыні жыццё.

Вось і для нарыхтоўкі грыбоў, гароднiны і сухафруктаў на зіму з'явіліся зручныя і кампактныя электрасушылкі з некалькімі паддонамі, дзе грыбы прасушваюцца з дапамогай падачы разагрэтага паветра, без перажарвання. Высушаныя такім чынам грыбы захоўваюць свой цудоўны пах і не перасушваюцца, што лёгка можа адбыцца пры сушцы ў звычайнай духоўцы.

Захоўваць высушаныя грыбы лепш за ўсё ў марлевых ці палатняных мяшэчках у добра праветраным памяшканні, далей ад харчоў з рэзкім пахам, бо грыбы яго могуць увабраць. Гэта месца таксама не павінна быць вільготным, інакш грыбы адсырэюць. Звярніце ўвагу, перасушаныя грыбы ломкія.

Калі вы выпадкова перасушыалі грыбы, не хвалюйцеся - прыгатуйце з іх грыбны парашок. Здрабніце перасушаныя грыбы, а затым перамяліце іх у кавамолцы. Можна дадаць у парашок соль па гусце, а таксама сушоную зеляніну - напрыклад, пятрушку ці сельдзярэй. Гэта выдатная заправа да мяса, аснова для соусаў, а яшчэ такі парашок можна дадаць у амлет. Асабліва пахам валодае парашок з баравікоў. Захоўваюць грыбны парашок у шкляных слоіках са шчыльным вечкам. Пажадана выкарыстаць яго на працягу года. Дарэчы, у такім выглядзе грыбы лепш засвойваюцца нашым арганізмам.

Які б спосаб сушкі ні быў абраны, думаю, вы не пашкадуеце пра намаганні, калі ўзімку ваша кухня напоўніцца дзівосным грыбным водарам.

# Ñåëüäçÿðýé

**Наўрад ці знойдзецца хоць адзін чалавек, які не чуў бы пра карысныя ўласцівасці сельдзяярэя, сам Гіпакрат зваў гэту травяністую расліну кладзезем здароўя. Сёння мы распавядзем пра гэты смачны і карысны прадукт, які заваяваў папулярнасць ва ўсім свеце.**

■ Святлана Крутава

### Сельдзярэй - скарбніца вітамінаў

Лячэбныя ўласцівасці сельдзярэю сёння ўжо не падвяргаюцца сумненням. Сельдзярэй непераборлівы ў доглядзе і захоўвае карысныя ўласцівасці на працягу ўсяго года. Сельдзярэй універсальны - у ежу выкарыстоўваюцца яго карані, сцёблы і лісце. З яго робяць сок, заправу, гарнір і салаты, ён утрымлівае мноства вітамінаў і мікраэлементаў. Сельдзярэй павялічвае супраціўляльнасць арганізма да інфекцыйных захворванняў, дапамагае змагацца з запаленнем верхніх і ніжніх дыхальных шляхоў.

Вітамін С, які змяшчаецца ў сцёблах гэтай расліны, нармалізуе ціск, умацоўвае сценкі сасудаў і спрыяе аднаўленню кровазвароту. Кальцый, магній, хлор і жалеза нармалізуюць працу імунных сістэмы, павялічваюць гемаглабін у крыві. Калій і натрый стабілізуюць водна-салевы баланс, выводзяць лішнюю вадкасць з арганізма і зменшаюць ацёкі.

Сельдзярэй багаты на клятчатку, якая дапамагае страваванню, чысціць кішэчнік ад шлакаў і таксінаў, узмацняе сакрэцыю страўніка. Эфірныя масы, якія змяшчаюцца ў сельдзярэі, аказваюць заспакаяльнае дзеянне на нервовую сістэму, здымаюць галаўны боль і стымулююць выпрацоўку гармона "радасці" - серsucceeding таніну.

### Сельдзярэй - ядзім і худнеем

Лячэбныя ўласцівасці сельдзярэю не абмяжоўваюцца велізарнай колькасцю карысных рэчываў, вітамінаў і мікраэлементаў. Сельдзярэй - лепшы сябар дзяўчат і наогул усіх, хто вырашыў схуднець. Ён з'яўляецца ўпадабаным прадуктам дыетолагаў і займае першае месца на стале ў людзей, якія сочаць за сваім здароўем. Сельдзярэй з'яўляецца не толькі карысным і нізкакаларыйным прадуктам сілкавання, ён - фенаменальны прадукт. На яго пераварванне наш арганізм затрачвае больш энергіі, чым атрымлівае калорый падчас яго засваення. Формула цудоўная, але дзейсная: падчас ужывання сельдзярэю мы не набіраем, а скідаем вагу! Дзякуючы лячэбным уласцівасцям сельдзярэю наш арганізм чысціцца, пазбаўляецца ад шлакаў, і такім чынам працэс расшчаплення падскуранага тлушчу адбываецца інтэнсіўней. Скура становіцца гладкай і пругкай, станТонкім, а ў вачах з'яўляецца бляск і жаданне актыўных дзеянняў. Дарэчы, пра актыўныя дзеянні. Ці ведаеце вы, што сельдзярэй з'яўляецца прызнаным афрадызіякам?

### Сельдзярэй павялічвае палавую цягу

Рэцэпт чароўнага напою, які б напаўняў сэрца жарсцю, а цела цягай, згадваецца яшчэ ў працах старажытных алхімікаў. Нездарма сельдзярэй завуць "месяцовай раслінай", ён валодае тамнічымі і загадкавымі ўласцівасцямі, здольнымі распальваць любоўны запал, павялічваць мужчынскую сілу. Паводле легенды, менавіта сок сельдзярэю ўжывалі Трыстан і Ізольда, а корань гэтай расліны выкарыстоўваўся ведзьмакамі-лекарамі. Шматлікія медыцынскія даследаванні паказалі, што актыўныя рэчывы, якія змяшчаюцца ў корані сельдзярэю, паляпшаюць палавую функцыю і спрыяюць актывізацыі лібіда.

### Лекар з градкі

Лячэбныя ўласцівасці сельдзярэю выкарыстоўваюцца даўно. У наш час прэпараты на аснове гэтай лекавай расліны ўжываюцца для лячэння і прафілактыкі шматлікіх захворванняў. Яны рэгулююць дзейнасць нырак і печані, нармалізуюць абмен рэчываў, дапамагаюць пры парушэннях сну. Рэгулярнае ўжыванне сельдзярэю ў ежу дапаможа справіцца з атлусценнем, страўнікава-кішэчнымі захворваннямі і ачысціць кроў. Сок сельдзярэю прапісваюць хворым на мачакаменную хваробу, выкарыстоўваюць як сродак ад алергіі і крапіўніцы. Сумесь сельдзярэю з сокам морквы і дзьмухаўца лечыць анемію і падымае жыццёвы тонус.

Гэта яшчэ не ўсе лячэбныя ўласцівасці. Лісце сельдзярэю выдатна дапамагае пры хваробах поласці рота і дзёсен, пры ўдарах і пухлінах. Адвараны карняплод можна прыкладваць на апёкі, а свежая зеляніна, змяшаная з топленым маслам, з'яўляецца выдатным раназажыўляючым сродкам.

Мы паспрабавалі распавесці вам аб усіх уласцівасцях сельдзярэю, "месяцовай расліны", вядомай яшчэ з часоў Гіпакрата. Карыстайцеся нашымі парадамі і адкрыйце для сябе густ гэтага незвычайнага, але карыснага прадукта.

## ІМЯНІНЫ

**23 верасня**
**Пр.:** Андрэя, Івана, Канстанціна, Мікалая, Паўла, Пятра
**К.:**Тэклі, Багуслава.
**24 верасня**
**Пр.:**Фядоры, Віктара, Германа, Дзмітрыя, Мікалая, Сяргея.
**К.:** Марыны, Германа, Тодара.
**25 верасня**
**Пр.:** Аляксея, Дзмітрыя, Сямёна, Фёдара, Юльяна.
**К.:**Амеліі, Сяргея, Уладзіслава.
**26 верасня**
**Пр.:** Аляксандра, Іллі, Мікалая, Пятра, Сцяпана.
**К.:**Люцыі, Тэрэзы, Ніла, Цыпрыяна.
**27 верасня**
**Пр.:**УЗВІЖАННЕ (УЗВЫШЭННЕ КРЫЖА ГАСПОДНЯГА).
**К.:** Вінцэнта,Мірабэлы, Даміяна.
**28 верасня**
**Пр.:**Людмілы, Дзмітрыя, Ігната, Іосіфа, Максіма, Мікіты, Сцяпана.
**К.:** Вацлава, Лаўрэнція, Марка, Сымона.
**29 верасня**
**Пр.:**Людмілы, Віктара, Іосіфа, Ісака, Рыгора.
**К.:** Міхаліны, Міхала, Габрыеля.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Глава Генуэзской республики | Опора, твердыня | | Франц. полисмен | Набоб | | Третий Рим | | Локоны |
| | | | Поросячий ... | Речная глубинка | | | | |
| Половодье | | | | | | | | Приток Ангары |
| | | | | Рассказ Гарри Гаррисона | | | | |
| Сплав Fe, Ni, Al | | Ложе | | Заливной ... | Горная порода | | | |
| | | | | | | | Золотой теленок | |
| Сборник решений собора 1551 года | Защита для глаза | | Ирный корень | | Река в Хабаровском крае | | | |
| | | | | | Вяз | Река во Франции | | Бубновая ... |
| Ложбина | | Желтая или красная краска | | Выразительный ... | | | | |
| Лепешка из муки | | | | | Башкирия | | | |
| | | | Первая женщина | | | | Крик | |
| Бриофит | Злак | | | | ... до ушей | | | |
| Музыкальный звук | | | Бессловесная ... | | | | | |

**Ответы на сканворд №37**
**По горизонтали:** Дротик. Стриж. Ураган. Рогоз. Ефимов. Пульпа. Плутон. "Лакме". Тьма. Закалка. Грог. Индиго. Абрек. Азов. Страда. **По вертикали:** Джузеппе. Окапи. "Изабо". Скрупул. Рогалик. Фал. "Мать". Вена. Утка. Омск. Амур. Мозг. Кан. Луиза. Айова. Граб. Охра. Икс. "Дар". Год.

## ГАРАСКОП
### на новы тыдзень

**АВЕН.** Для Авенаў на пачатку тыдня складзецца асаблівая атмасфера ў сям'і. Бізнес на гэтым тыдні будзе асабліва паспяховым, найлепшы для гэтага перыяд - першая палова тыдня. Праўда, справам некалькі перашкодзяць шматлікія вечарынкі. Выхадныя прынясуць поспех тым Авенам, хто так ці інакш належыць да шоў-бізнесу. Канец тыдня можа стаць адпраўной кропкай у важных для Авенаў адносінах.

**ЦЯЛЕЦ.** Увесь тыдзень вы будзеце адчуваць дужае плячо вашага анёла-захавальніка. Нейкім цудам вы зможаце пазбегаць няўдалых крокаў, няправільных рашэнняў, неабавязковых выдаткаў. Ваша энергія будзе падсілкоўвацца з космасу. Там, дзе іншыя пачнуць адставаць, у вас адкрыецца другое дыханне. Сярэдзіна тыдня дазволіць закласці падмурак для важнага і перспектыўнага пачынання. Гэты перыяд вельмі спрыяльны для кар'ернага росту. Выхадныя - лепшы час для стварэння новай сям'і.

**БЛІЗНЯТЫ.** Пачатак тыдня прымусіць вас раскашэліцца. Але не перажывайце, у другой палове тыдня ў вас з'явіцца шанц паправіць матэрыяльнае становішча. Менавіта тады лепш за ўсё ставіць на новыя праекты, яны будуць ўдалымі. Сярэдзіна тыдня прынясе вялікія грошы, ваша матэрыяльнае становішча стабілізуецца. У пятніцу не варта ўвязвацца ў авантуры, ёсць рызыка зноў усё страціць. Лепш скарыстайцеся закрытай дзелавой інфармацыяй, каб зрабіць вялікі крок па кар'ерных прыступках.

**РАК.** Ракам прыйдзецца папрацаваць, каб расстарацца грошай. Такі шанц падвернеецца ўжо ў сярэдзіне тыдня. Пятніца - лепшы час для пашырэння бізнесу, вы зможаце выйсці на міжнародны ўзровень. У выхадныя Ракі рашацца на буйную куплю, варта быць вельмі ўважлівымі з дакументамі і не паддацца на зман. Будучы тыдзень адкрывае новыя гарызонты ў бізнесе.

**ЛЕЎ.** Ільву на новым тыдні прыйдзецца добра папрацаваць у імя ўласнага дабрабыту. Пачатак тыдня, мабыць, найбольш спрыяльны перыяд для фінансавых аперацый. Варта пашукаць новыя крыніцы фінансавання, але хадзіць трэба толькі праверанымі сцежкамі і не рызыкаваць. спадзявайцеся на старых партнёраў. У пятніцу магчыма паспяховае завяршэнне пачатай справы ці падпісанне выгаднага кантракту. Хутка з'явіцца крыніца дадатковага прыбытку. Выхадныя могуць прынесці поспех у латарэі.

**ПАННА.** Ужо на пачатку тыдня Панны адчуюць шчодрую руку фартуны. Магчыма атрыманне буйной сумы грошай, дарагіх падарункаў, прывабных прапаноў. Поспех чакае таксама і людзей творчых прафесій - дызайнераў, журналістаў, літаратараў. Будзьце асабліва актыўныя ў сярэдзіне тыдня: гэта ваш час. Аднак Паннаў чакаюць буйныя растраты, падрыхтуйцеся. Часовае безграшоўе зменіцца прыбытковай справай зусім хутка.

**ШАЛІ.** Пачатак тыдня для Шаляў не надта спрыяльны. Планаў і працы шмат, а прыбытку недастаткова. Усе гэтыя цяжкасці часовыя. Цяпер варта падумаць, а ці не змяніць вам месца працы? Калі гэта адбудзецца, то ўжо ў кастрычніку справы пойдуць на рэдкасць удала. Бліжэй да выхадных адбудзецца знаёмства з уплывовымі людзьмі, дзякуючы якім вы зможаце пачаць уласную справу.

**СКАРПІЁН.** На гэтым тыдні перад Скарпіёнамі адкрываюцца новыя гарызонты для бізнесу. Паступіць гэтулькі прапаноў, што толькі паспявай ва ўсім удзельнічаць. Цяпер закладваюцца парасткі для новых кірункаў у бізнесе. Імкніцеся прытрымлівацца ўзятых на сябе абавязкаў. Сёй-той са Скарпіёнаў вырашыць змяніць працу, гэта можа адбыцца бліжэй да зімы. Новае месца прынясе больш грошай і больш упэўненасці ў заўтрашнім дні.

**СТРАЛЕЦ.** Для Стральцоў вельмі спрыяльная сярэдзіна тыдня. Не ўпусціце свой шанц знайсці новую крыніцу прыбытку апроч асноўнай дзейнасці. Гэта падзея надасць сіл і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні, уздыме настрой. Калі ваша прафесія звязана з мастацтвам, то вам пашанцуе ўдвая. Другая палова тыдня будзе багатая на падзеі, чакайце грашовых паступленняў. Хутка лёс паднясе падарунак - новая прыбытковая справа, самастойны бізнес ці ўдалы ўдзел у перспектыўным праекце.

**КАЗЯРОГ.** Для Казярогаў гэты ты-дзень будзе падобны на рух маятніка. Перыяды ўздымаў будуць чаргавацца з этапамі поўнага безграшоўя. Праўда, ёсць шанц напачатку тыдня ўхапіць усё ж птушку-поспех за хвост, адважней рэа-лізоўвайце свае самыя неверагодныя ідэі. А вось грошай на гэтым тыдні не пазычайце, магчыма, што вы іх больш ніколі не ўбачыце. І не гуляйце ў каханне з тымі, хто вам даверае.

**ВАДАЛЕЙ.** Для Вадалеяў удалым бу-дзе ўжо самы пачатак тыдня. Менавіта цяпер з'явіцца магчымасць нядрэнна зарабіць, так што хутка сёй-той з прадстаўнікоў знака зможа разлічыцца з даўгамі. Адна акалі ч - насць - лепш пакуль не смеціць грашыма, а ўкласці іх у які-небудзь перспектыўны праект. Найлепшы час для стварэння ўласнага бізнесу - сярэдзіна тыдня. У другой палове тыдня справы будуць ісці паспяхова, як і ў першай.

**РЫБЫ.** Для Рыб тыдзень больш чым удалы. Наперадзе шмат цікавых праектаў, новыя кантакты, паездкі і сустрэчы. У матэрыяльным плане паспяховая сярэдзіна тыдня. Пара, нарэшце, аб'яднацца з найбліжэйшымі сваякамі і праверанымі сябрамі для стварэння сямейнага бізнесу. Найлепшым часам для гэтага будзе кастрычнік. Для фінансавых укладанняў лепш за ўсё падыдзе канец верасня.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

"Вольнае Глыбокае"
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 21 верасня 2010 года ў 21.05

Наклад 2000 паасобнікаў

Рэдактар : Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
тэлефон / факс: (02156) 2 46 14;
E-mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
211800 г. Глыбокае п/с 3

Замова №

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.Спасылкі на "Вольнае Глыбокае" абавязковыя.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023
9 772077 802009 10038